## Праваабаронца з Берасьця прыняў удзел у першым ў гэтым годзе міжнародным легкаатлетычным прабеге ў Гомлі, які быў прысьвечаны 94 гадавіне унутраных войскаў

Праваабаронца з Берасьця Уладзімір Малей прыбег чацьвёртым у сваёй векавой групе і патрапіў у "пяцёрку" найлепшых.


Уладзімір Малей пасьля прабегу

"Са мной беглі маладыя байцы унутраніх войскаў гомельскага гарнізона, яны беглі толькі 5 кіламетраў - Я іх "зрабіў"!", паведаміў Уладзімір Малей пасьля заканьчэньня сваёй 10 кіламетровай дыстанцыі,

- "Я наўмысна вырашыў прыняць удел у гэтым легкаатлетычным мерапрыемстве, наўмысна апрануў кашулю з выявай праваабаронцы і надпісам "Свабоду Алесю Бяляцкаму, які ўтрымліваецца ў Барысаўскай калёніі №2 за сваю праваабарончую дзейнасьць!

Я намагаюся прыцягнуць увагу суайчыннікаў да праблемы наяўнасьці на Беларусі палітзняволеных, каб прапагандаваць і пашыраць на Беларусі праявы салідарнасьці, неабходнасьці абароны правоў суайчыннікаў! А таксама з мэтай прапаганды свабоднага прафсаюзнага руху, сьцяг прафсаюзу РЭП ужо лунаў і ў Гданьску і ў Мілане..."

**Кантакты:**

**e-mail:** viasna_bierascie@hotmail.com

**Наклад: 299 асобнікаў**

Праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь Берасьцейшчыны «Мяжа»







Праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь Берасьцейшчыны

№ 3 (сакавік), 2012

# Мяжа



## Уладзіслава Кавалёва і Дзмітрыя Канавалава расстралялі

(старонка 3)

## ЗЬМЕСТ







## Рэзалюцыя Сумара на цыркуляры аб «недапушчэнні беларусізацыі»: «Для арганізацыі выканання»

Згодна з ёй, цыркуляр павінен быць разасланы ў раёны.

У «Нашу Ніву» трапіў цыркуляр, спушчаны з Адміністрацыі прэзідэнта па вертыкалі.

Гэта загад чыноўнікам не дапускаць беларусіфікацыі і скарачэння ўжывання рускай мовы. Дакумент датаваны 2 сакавіка.

Сёння мы атрымалі магчымасць апублікаваць яшчэ і рэзалюцыю старшыні Брэсцкага аблвыканкама Канстанціна Сумара. Згодна з ёй, цыркуляр павінен быць разасланы ў раёны: «Для арганізацыі выканання і давядзення да ведама зацікаўленых».

У сённяшніх умовах гэта азначае ўзмацненне русіфікацыі і рэкамендацыю не ўжываць нацыянальную мову. Імаверна, лукашэнкаўцы баяцца росту нацыянальнай свядомасці беларусаў.

nn.by/?c=ar&i=70073

## Царква і касьцёл — супраць указу Лукашэнкі

Рашэньне Лукашэнкі перанесьці працоўны дзень на нядзелю, 11 сакавіка, у Беларускай праваслаўнай царкве і касцёле ўспрынялі са зьдзіўленьнем.

Паводле ўказу Аляксандра Лукашэнкі № 119, у Беларусі працоўны дзень зь пятніцы, 9 сакавіка, пераносіцца на нядзелю 11 сакавіка. У прэс-службе Беларускай праваслаўнай царквы і ў сакратарыяце Канфэрэнцыі каталіцкіх біскупаў у Беларусі перанос працоўнага дня на нядзелю не падтрымліваюць:

«Нішто ня можа адмяніць запаветы Божыя. У нас шмат выпадкаў, калі людзей прымушаюць працаваць у выходныя. Вядома, гэта дрэнна. Вядома, мы гэтага не падтрымліваем», сказалі Tut.by у прэсавай службе БПЦ.

Не падтрымліваюць перанос працоўнага дня на нядзелю і ў сакратарыяце Канфэрэнцыі каталіцкіх біскупаў у Беларусі:

«Вядома, гэта не нармальна. Мы ведаем, што нядзеля — гэта дзень для сям’і, для адпачынку. А тут усё перакульваецца. Зразумела, ні зь якімі пратэстамі і апэляцыямі мы выступаць ня будзем, але гэта ненармальна».

www.svaboda.org/content/article/24501568.html

працаваць на „Радыё Рацыя“, каб задумаўся пра свой лёс. Аднак разам з тым сказалі, што цяпер у мяне будуць праблемы, нават калі я буду працаваць у акрэдытаваным выданьні. Бо я, маўляў, ужо два разы парушаў закон і цяпер будуць нейкія праблемы, зьвязаныя з маім імем, калі я буду працаваць у журналістыцы.

Акрамя гэтага, сказалі, што будуць глядзець, ці спыніў я сваю працу, бо трэцяга папярэджаньня мне даваць ня будуць. Ужо наступным разам, сказалі, што будзе адміністрацыйнае пакараньне, або, калі ў выніку аналізу маіх матэрыялаў выявяць нейкае парушэньне, то могуць прычапіцца ўжо і да больш сур'ёзнага. Гэта такая формула — галоўнае, каб было за што, а як пакараць — знойдуць».

Гэта ўжо другое такое папярэджаньне, якое атрымаў спадар Кісель. Першае было ў 2009 годзе.

www.svaboda.org/content/article/24520577.html

## Беларуская літаратура ў аўтобус — праз ідэалягічны аддзел

Берасьцейскі аўтобусны парк не працягнуў дамову на разьмяшчэньне ў аўтобусах урыўкаў з твораў беларускіх пісьменьнікаў.

Выпісы зь беларускай клясыкі былі разьмешчаныя на правах рэклямы ў аўтобусах пяці маршрутаў. Ініцыятыва належала агенцтву рэгіянальнага разьвіцьця «Дзедзіч» у межах кампаніі «Наша мова».

Аднак калі ініцыятары акцыі вырашылі працягнуць дамову з аўтапаркам, то атрымалі адмову і параду схадзіць у ідэалягічны аддзел гарвыканкаму.

Кіраўнік «Дзедзіча» Зьміцер Шыманскі кажа:

«Гэта такі быў пісьмовы адказ, а на словах патлумачылі, што трэба зрабіць гэтую ўлётку ў чатыры разы меншай. Пасьля гэтага трэба прынесьці ўлётку да іх. На наступным тыдні мы пераробім дызайн улётак і зьвернемся яшчэ раз. І калі ўжо будзе адмова паўторная, то тады будзе ясна, што ўлады проста не зацікаўленыя ў тым, каб у Год кнігі тут папулярызавалі беларускую літаратуру».

Акцыя з рэклямай твораў беларускай літаратуры была задуманая дзеля папулярызацыі беларускай літаратуры ў Год кнігі.

У аўтобусах пяці берасьцейскіх маршрутаў побач з рэклямай у лютым віселі ўрыўкі з твораў Янкі Купалы, Максіма Гарэцкага, Уладзімера Караткевіча і Васіля Быкава.

www.svaboda.org/content/article/24515084.html





## Уладзіслава Кавалёва і Дзмітрыя Канавалава расстралялі

Сваякі Улада Кавалёва атрымалі паведамленне з Вярхоўнага суду, адпраўленае 16-га сакавіка, аб тым, што прысуд прыведзены ў выкананне.



Уладзіслаў Кавалёў

Даведку пра тое, што прысуд прыведзены ў выкананьне, даслалі на хатні адрас Кавалёвых у Віцебску. Ліст з паштовай скрыні дастала маці, Любоў Кавалёва. Гаварыць яна ня можа — толькі плача.

«Во толькі што мама са скрыні дастала. Вярхоўны суд…ад 16.03 ліст… што прысуд прыведзены да выкананьня… Мама яго атрымала. Яны яго забілі, усё было дарэмна, усё дарэмна», — толькі і смагла сказаць скрозь сьлёзы Таццяна, сястра Ўладзіслава Кавалёва, перадае Радыё Свабода.

Учора колішні начальнік «Валадаркі» Алег Алкаеў у інтэрвію «Свабодзе» сказаў, што асуджаны на смерць Уладзіслаў Кавалёў можа знаходзіцца ў камеры смяротнікаў, што размешчана ў спецкалідоры ў сутарэннях старога будынку «Валадаркі». Пра час смерці зняволеныя даведваюцца ў самы апошні момант — літаральна за некалькі хвілін да расстрэлу, калі камісія абвяшчае ім пра рашэнне прэзідэнта адносна іх прашэння аб памілаванні. Чаканне гэтага часу «Ч» можа цягнуцца некалькі месяцаў, пакуль кіраўнік расстрэльнай групы не атрымае адпаведных дакументаў ад прэзідэнта.

Але ў выпадку з асуджанымі па справе тэракту ўлады паспяшаліся.

Еўрарадыё выказвае меркаванне, што Кавалёў мог быць расстраляны ў той самы дзень, калі пра гэта паведаміла дзяржаўнае тэлебачанне. Бо на наступную раніцу адвакату Станіславу Абразею паведамілі, што Кавалёва этапавалі з СІЗА КДБ, дзе ён знаходзіўся ўвесь час.

Маці і сястра Кавалёва сустрэліся з ім 11 сакавіка ў СІЗА, 13-го стала вядома, што яго не памілавалі.

Варта нагадаць, што на разглядзе ў камітэце ААН па правам чалавека знаходзіцца скарга якую накіравалі сваякі Кавалёва. Камітэт прасіў беларускія ўлады не выконваць смяротны прысуд пакуль яна не будзе разгледжаная. Праваабаронца Людміла Гразнова лічыць, што гэта можа выклікаць чарговы скандал.

16 сакавіка маці Кавалёва разам з адвакатам перадалі заявы з просьбай даць пісьмовыя адказы, дзе знаходзіцца Ўлад, у ізалятар КДБ і ў Дэпартамент выканання пакаранняў МУС. У ДВП заяву не прынялі, сказалі, што трэба звяртацца ў Вярхоўны суд.

30 лістапада 2011 году Вярхоўны суд Беларусі прызнаў Уладзіслава Кавалёва вінаватым у саўдзеле ў тэрарызме і прысудзіў яго да смяротнага пакарання. 7 снежня асуджаны падаў прашэнне аб памілаванні на імя Аляксандра Лукашэнкі.

Дзмітрый Канавалаў, таксама асуджаны на смяротнае пакаранне паводле абвінавачання ў тэрарызме па гэтай крымінальнай справе, прашэнне аб памілаванні падаваць адмовіўся. Як стала вядома Tut.by, прысуд у дачыненні яго таксама выкананы.

spring96.org/be/news/50870

## Кавалёвых і Канавалавых «ахоўваюць» міліцыя і спэцслужбы

Каля дома Кавалёвых «ахоўнікі» у форме спэцназу зьявіліся мінулым вечарам — калі людзі пайшлі туды са сьвечкамі ды кветкамі.

Аднаго хлопца, кажа сястра Ўладзіслава, Тацяна Козяр, затрымалі ды завялі ў машыну з зацемненымі вокнамі. Потым у сацыяльных сетках зьявіліся зьвесткі, што яго адпусьцілі без складаньня пратаколу.

Сьвечкі і кветкі нехта паставіў і каля кватэры Кавалёвых у доме № 6 па вуліцы Рэпін.

Але маці пакаранага сьмерцю за тэракт у менскім мэтро Ўладзіслава Кавалёва, якая 17 сакавіка атрымала афіцыйнае паведамленьне, што прысуд ужо выкананы, дагэтуль ня можа ў гэта паверыць:

«Я ня веру, гэтага душа мая не прымае. Я ведаю, што целы расстраляных не выдаюць сваякам, але я хачу, каб мне аддалі. Раз ужо ўсклалі на яго такі грэх, то няхай аддаюць. Каб я яго пахавала, каб магла б яму хоць кветкі прынесьці, каб людзі прынесьлі — а не так, да пад’езду. І каб міліцыя ды спэцслужбы не хапалі тых, хто йдзе з кветкамі ды сьвечкамі. Вы разумееце, яны нават мёртвага Ўлада баяцца!»

Апазыцыянэр Барыс Хамайда, сусед Кавалёвых, выказвае





гаспадара гістарычных пабудоў. Пасля гэтага актывіст падаў пазоў на дзеянні чыноўніка.

Суд Ленінскага раёна Брэста адмовіў у задавальненні зыскавай заявы Турчаняка, а калегія Брэсцкага абласнога суду 15 сакавіка пакінула гэтае рашэнне без зменаў.

spring96.org/be/news/50796

## Лявонцій Чыпурных скардзіцца ў ААН

Берасьцейскі актывіст партыі левых «Справядлівы сьвет» Лявонцій Чыпурных накіраваў скаргу ў Камітэт ААН па правах чалавека. Спадар Чыпурных абскарджвае прысуд за ўлёткі Народнага сходу.

Паводле таго прысуду актывіст адседзеў 5 сутак за распаўсюд запрашэньняў на Народны сход. А калі выйшаў, то ня змог абскардзіць прысуд у абласным судзе, бо 5-суткавы тэрмін абскарджваньня выйшаў. Лявонцій Чыпурных прасіў працягнуць гэты тэрмін хаця б да 7 сутак, тлумачачы, што ня мог падаць скаргу, бо адбываў пакараньне ў ізалятары. Аднак абласны суд адмовіўся працягнуць яму тэрмін абскарджваньня.

У скарзе ў Камітэт па правах чалавека ААН Лявонцій Чыпурных просіць прызнаць парушэньнем ягоных правоў 5-суткавы арышт і тое, што яму не дазволілі абскарджваць яго ў вышэйшым судзе.

Праваабаронца Ўладзімер Малей, які займаўся справай Лявонція Чыпурных, кажа, што ў гэтым выпадку мае месца парушэньне Міжнароднага пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах. У прыватнасьці, спадар Малей кажа, што не было задаволена права Чыпурных на перагляд справы. Акрамя таго, кажа праваабаронца, прысудам парушана права Лявонція Чыпурных на выказваньне сваёй думкі шляхам распаўсюду інфармацыі.

www.svaboda.org/content/article/24505496.html

## Пракуратура папярэдзіла карэспандэнта «Радыё Рацыя»

Берасьцейскаму незалежнаму журналісту Зьмітру Кісялю, які супрацоўнічае з «Радыё Рацыя», пракуратура вынесла афіцыйнае папярэджаньне за працу без акрэдытацыі.

Журналіст кажа, што яго папярэдзілі, што наступным разам наступствы для яго могуць быць прыкрэйшыя:

«У вуснай размове мяне папярэдзілі, што пажадана, каб я пакінуў

Паседжаньне калегіі абласнога суду пачалося з камічнай сытуацыі. Старшыня калегіі запытаўся ў спадарыні Сьмірновай, ці давярае яна суду, маючы на ўвазе, ці ня будзе хадайніцтваў аб адводзе суду. Аднак жанчына сказала, што яна ўвогуле не давярае беларускай судовай сыстэме. Тым часам судзьдзя ўспрыняў гэты рытарычны сказ як хадайніцтва аб адводзе судзьдзі і абвесьціў перапынак. Пасьля перапынку паведамілі, што хадайніцтва не задавальняецца і паседжаньне працягнулася.

Пасьля вынясеньня рашэньня не на карысьць Ірыны Сьмірновай жанчына павіншавала судзьдзяў з Днём Канстытуцыі. Ужо на вуліцы яна сказала журналістам, што ёй вельмі крыўдна, што нават у Дзень Канстытуцыі адзінокая жанчына ня можа дабіцца абароны сваіх канстытуцыйных правоў у судзе. Тым ня меней, жанчына кажа, што і надалей будзе дабівацца права на пажыцьцёвае валоданьне надзелам.

www.svaboda.org/content/article/24517087.html

## Брэсцкі абласны суд не задаволіў скаргу Дзяніса Турчаняка на чыноўніка з выканкаму

Каардынатар Руху «За Свабоду» ў Брэсце Дзяніс Турчаняк спрабаваў абскардзіць рашэнне суду першай інстанцыі, які не знайшоў парушэнняў з боку намесніка старшыні мясцовага гарвыканкаму Вячаслава Хафізава.



Каардынатар Руху «За Свабоду» ў Брэсце Дзяніс Турчаняк

Нагодай для судовага разбіральніцтва стаўся той факт, што Дзяніс Турчаняк звярнуўся ў Брэсцкі гарвыканкам з просьбай прадставіць копіі рашэнняў, якія тычацца лёсу будынкаў у цэнтры горада, уключаных у дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў, але знаходзяцца у занядбаным стане. Аднак намеснік старшыні гарвыканкаму Вячаслаў Хафізаў адмовіўся прадстаўляць неабходныя звесткі пра цяперашняга





меркаваньне, што ня выключаны нейкія правакацыі супраць маці расстралянага, бо яна змагалася за свайго сына з дзяржаўнай сыстэмай:

«Стаяць два мікрааўтобусы з танаваным шклом каля дому № 6, ходзяць навокал людзі ў цывільным... За апошні год Любоў Іванаўна Кавалёва стала сымбалем змаганьня за жыцьцё свайго сына, за жыцьцё кожнага з нас... Яна стала сымбалем беларускай жанчыны, беларускай маці. Таму наш абавязак — бараніць яе. Трэба памятаць пра гэта, бо я не выключаю, што супраць яе магчымая нейкія правакацыі».

Барыс Хамайда гаворыць, што бачыў супрацоўнікаў спэцслужбаў і каля дому, дзе жыве сям'я другога пакаранага сьмерцю за тэракт у менскім мэтро. Бацькі Дзьмітрыя Канавалава жывуць пад аховай людзей у цывільным ужо амаль год, як толькі іхнага сына затрымалі па падазрэньні ў зьдзяйсьненьні тэракту. Людзі ў цывільным суправаджаюць іх на працу і дзяжураць у пад'езьдзе або ў машыне пад вокнамі кватэры.

www.svaboda.org/content/article/24519333.html

## На мікашэвіцкім прадпрыемстве "Граніт" працягваецца ціск на процоўных. Намесніку кіраўніка незалежнага прафсаюзу працоўных абяцаюць не працягнуць кантракт

Фармальнаю падставаю для меркаванага звальнення працоўнага ў траўні месяцы стала парушэнне працоўнага заканадаўтва.

Мікалай Карышаў лічыць наказы сфабрыкаванымі і неабгрунтаванымі. Такі ціск на намесніка кіраўніка незалежнага прафсаюзу ажыцця̆ўляецца, на ягоную думку, з-за з таго, што ён выйшаў з дзяржаўнага прафсаюзу і ўступіў у незалежны. Мікалай Карышаў вырашыў адстойваць свае правы і з гэтаю мэтаю звярнуўся ў берасцейскі праваабарончы цэнтр "Вясна", дзе яму была аказаная юрыдычная дапамога. Праававаронцамі з удзелам працоўнага была складзеная скарга на неправамерныя дзеянні адміністрацыі прадпрыемтства "Граніт". "Патрабую прыняць меры ў адпаведнасці да службовых асобаў прадпрыемства "Граніт" згодна з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь", - значыцца ў дакуманце. Скарга накіраваная пракурору Лунінецкага раёну.

Каментуючы такую сітуацыю, Мікалай Карышаў адзначыў, што ў дадзеным выпадку назіраецца яўная дыскрымінацыя па прафсаюзнай адметнасці, што парушае яго неадемныя правы.

Вольга Сініцына

## Сітуацыя на “Граніце” застаецца нявырашанай

Сітуацыя на прадпрыемстве “Граніт” з незалежным прафсаюзам застаецца нявырашанай. Частка рабочых выйшла з афіцыйнага прафсаюзу і пастанавіла стварыць незалежную прафсаюзную суполку.

Рэакцыя адміністрацыі прадпрыемства ў Мікашэвічах і мясцовых уладаў не прымусіла доўга чакаць: лідар суполкі Алег Стахаевіч застаўся без працы, а на іншых кіраўніцтва працягвае аказваць маральна-псіхалагічны ціск.

Распавядае працоўны “Граніта” Анатоль Літвінка:
- Кожны дзень апрацоўваюць аднаго-двух чалавек. У іх ёсць спісы тых, хто выйшаў з прафсаюза. Падчас размовы папярэджваюць, што людзі застануцца без працы. Прапаноўваюць напісаць заяву пра вяртанне ў дзяржаўны прафсаюз.

Анатоль Літвінка кажа, што відавочна ўлады не збіраюцца даваць незалежнаму прафсаюзу памяшканне для атрымання юрыдычнага адраса.

Падтрымку рабочым, найперш юрыдычную, аказваюць буйныя незалежныя прафсаюзы Беларусі. Як раней сказаў прафсаюзны лідар Аляксандр Ярашук, ён лічыць нават справай гонару абараніць незалежную прафсаюзную суполку на “Граніце”.

new.racyja.com/news/situatsyya-na-“granitse”-zastaetstsa-nyavyrashanai

## У Берасьці забаранілі пікет салідарнасьці з Алегам Стахаевічам

Кіраўніцы прафсаюзу працаўнікоў радыёэлектроннай прамысловасьці (РЭП) Зінаідзе Міхнюк берасьцейскі гарвыканкам забараніў праводзіць пікет салідарнасьці са звольненым кіраўніком суполкі незалежнага прафсаюзу на прадпрыемстве «Граніт» у Мікашэвічах.

Чыноўнікі забаранілі пікет на той падставе, што Міхнюк не заключыла дамоваў з мэдыкамі, камунальнікамі і міліцыяй, каб тыя абслугоўвалі акцыю.

Аднак спадарыня Міхнюк кажа, што гэтыя службы яшчэ самі ня ведаюць, як заключаць гэтыя дамовы: «Мы пайшлі да камунальнікаў, камунальнік нас паслаў на завод па перапрацоўцы сьмецьця... Карацей, ніхто яшчэ не заключаў ніякіх дамоваў, бо ніхто ня ведае, як іх заключаць. Хаця такое патрабаваньне дзейнічае ад сярэдзіны 2011 году. А што, улады не праводзілі ніякага мерапрыемства або праўладныя грамадзкія





Аднак на паўторным паседжаньні Маскоўскі суд прызнаў спадара Казака вінаватым у непадпарадкаваньні супрацоўнікам міліцыі. Хлопца аштрафавалі на 700 тысяч рублёў.

Віталь Казак з прысудам не пагадзіўся. Ён кажа, што ізноў будзе абскарджваць яго ў абласным судзе.

www.svaboda.org/content/article/24513804.html

## Жыхарка Берасьця пяць гадоў судзіцца за зямлю

Калегія Берасьцейскага абласнога суду адмовіла ў задавальненьні скаргі жыхаркі гораду Ірыны Сьмірновай. Спадарыня ўжо каля пяці гадоў дабіваецца пераводу надзелу зямлі ў пажыцьцёвае карыстаньне.

Спадарыня Сьмірнова атрымала ў спадчыну палову дому ў прыватным сэктары Берасьця і палову зямельнага надзелу. Аднак яна кажа, што доўгі час ня можа дабіцца атрыманьня гэтага надзелу ў пажыцьцёвае карыстаньне. Замест гэтага Ірыне Сьмірновай прапануюць замацаваць надзел за сабой праз арэнду. З гэтай пазыцыяй выступае і сусед Ірыны Сьмірновай, які, дарэчы працуе ў землеўпарадкавальнай арганізацыі. Сусед Сьмірновай мае кватэру ў гэтым жа доме. Але жанчына на гэта не пагаджаецца, бо баіцца часовых умоваў арэнды. Спадарыня кажа, што такім чынам яе ў выніку могуць увогуле пазбавіць права на гэтую зямлю.

Юрыдычны бок пытаньня камэнтуе праваабаронца Уладзімер Малей:

«Канстытуцыя і закон аб зямлі ўсталёўваюць тое, што грамадзянін Беларусі мае права на пажыцьцёвае карыстаньне зямельным надзелам. У дадзеным выпадку дамаўладаньне складаецца з двух кватэр. Таму дзяржава прапануе вырашыць справу, здаўшы зямлю Ірыне Сьмірновай у арэнду. Тым больш, што сястра Ірыны, якая таксама мае тут частку спадчыны, зьяўляецца грамадзянкай іншай краіны. Тут і пачынаецца супярэчнасьць. Бо замежным грамадзянам зямлю заканадаўства дазваляе перадаваць толькі ў арэнду. Але што такое арэнда? Дом знаходзіцца ў цэнтры гораду, зямля тут вельмі дарагая, і таму існуе сур’ёзная рызыка, што з надуманых прычынаў могуць спыніць дамову аб арэндзе і сказаць, маўляў, зносьце гэтую халупу... І гэтыя 8 сотак аддадуць, каб паставіць камусьці палац… Таму Ірына Сьмірнова небеспадстаўна змагаецца за сваё права на пажыцьцёвае карыстаньне надзелам».

пакараюць штрафам. Карацей, мне не далі дазволу на распаўсюд партыйных буклетаў.»

У час пікету ў парку было каля дваццаці берасьцейцаў, якія гулялі тут са сваімі дзецьмі. Па сьцяжынах парку езьдзіў дзіцячы цягнічок.

www.svaboda.org/content/article/24518823.html

## Пінскія ўлады забаранілі літаратурную вечарыну

У вёсцы Месяцічы Пінскага раёну планавалася правядзенне творчай імпрэзы з нагоды стагадовага юбілею ўкраінскага пісьменніка Фёдара Одрача, які нарадзіўся ў гэтых мясцінах.

З ініцыятывай правядзення вечарыны выступілі сябры украінскай навукова-педагагічнай суполкі «Берагіня», якая афіцыйна зарэгістравана ў Беларусі. Меркавалася, што ў мерапрыемстве возьмуць удзел госці з Украіны, якія грунтоўна даследуюць літаратурную і журналісцкую творчасць Одрача, якая дагэтуль выклікае вялікую цікавасць у чытачоў.

За адпаведным дазволам на правядзенне вечарыны арганізатары звярнуліся спачатку ў мясцовы сельвыканкам, але ў выніку атрымалі адмоўны адказ ад раённых уладаў. У якасці прычыны для забароны мерапрыемства чыноўнікі спаслаліся на тое, што Фёдар Одрач быў удзельнікам Украінскай паўстанцкай арміі і змагаўся з Чырвонай Арміяй. Спробы давесці, што непасрэднага ўдзелу ў збройнай барацьбе ён не прымаў і ў часе баявых дзеянняў ужо выехаў у эміграцыю, поспеху не мелі.

Замест забароненай літаратурнай вечарыны ў вёсцы, дзе 13 сакавіка 1912 года нарадзіўся Фёдар Одрач, сябры "Берагіні" зараз плануюць адсвяткваць юбілей пісьменніка у больш сціплых умовах у Брэсце.

spring96.org/be/news/50565

## 700 тысяч штрафу за адмову ад дактыляскапіі

Жыхар Берасьця Віталь Казак аштрафаваны на 700 тысяч за тое, што не падпарадкаваўся міліцыянту. Спадар Казак адмовіўся здаваць адбіткі пальцаў.

Віталь Казак адмаўляўся ад дактыляскапіі з рэлігійных перакананьняў. Ён нават здаў міліцыянтам вынікі ДНК-аналізу, але іх гэта не задаволіла.

Гэта ўжо другі разгляд справы ў Маскоўскім судзе Берасьця. Першы раз Віталю Казаку прысудзілі 1 мільён 50 тысяч штрафу. Аднак ён з прысудам не пагадзіўся і падаў скаргу ў абласны суд. Скаргу Віталя Казака задаволілі, адмяніўшы той прысуд і накіраваўшы справу на перагляд.





арганізацыі? Ім не патрэбна, бачыце, заключаць дамовы, а нам трэба...»

Спадарыня Міхнюк распавяла, што хаця пікет забаранілі, знойдуцца іншыя формы салідарнасьці з працоўнымі «Граніту».

«Тым болей, мы зьезьдзілі ў Мікашэвічы, і мы ведаем, што гэтых хлопцаў не зламаюць, бо яны мацней за граніт. Мы пераканаліся, што працаўнікі „Граніту“ ня будуць туалетнай паперай для начальства,» — кажа Зінаіда Міхнюк.



Алег Стахаевіч

Пікет салідарнасьці з Алегам Стахаевічам плянаваўся ў Берасьці 7 сакавіка ў парку Воінаў-інтэрнацыяналістаў. Спадарыня Міхнюк плянавала, што ў ім возьме ўдзел да 50 чалавек.

Алег Стахаевіч быў звольнены з прадпрыемства «Граніт» у Мікашэвічах пасьля таго, як ачоліў суполку незалежнага прафсаюзу напрыканцы 2011 году. Тады некалькі соцень працоўных выйшлі з афіцыйнага прафсаюзу і стварылі суполку Беларускага незалежнага прафсаюзу на прадпрыемстве «Граніт».

www.svaboda.org/content/article/24506216.html

## Забаранілі пікет у падтрымку Бяляцкага

Берасьцейскі праваабаронца Ўладзімер Вялічкін атрымаў ліст ад мясцовых уладаў, у якімі тыя забараняюць пікет салідарнасьці са зьняволеным кіраўніком праваабарончага цэнтру «Вясна» Алесем Бяляцкім.

Забарону чыноўнікі аргумэнтавалі тым, што заяўнік пікету не заключыў дамовы на яго абслугоўваньне з камунальнікамі, мэдыкамі і міліцыяй.

Уладзмер Вялічкін кажа, што заключаць гэтыя дамовы абсурдна, бо, на яго думку, невялікі пікет у 20 чалавек ня можа выклікаць праблемы, дзеля вырашэньня якіх спатрэбяцца згаданыя службы.

Пікет плянаваўся 8 сакавіка з 13-й да 15-й гадзіны ў парку Воінаў-інтэрнацыяналістаў у Берасьці.

24 студзеня Менгарсуд разгледзеў касацыйную скаргу кіраўніка

праваабарончага цэнтру «Вясна», віцэ-прэзыдэнта Міжнароднай фэдэрацыі правоў чалавека Алеся Бяляцкага, асуджанага на 4,5 года турмы. Прысуд Бяляцкаму пакінулі бязь зьмены.

Кіраўнік праваабарончага цэнтру «Вясна» Алесь Бяляцкі асуджаны на 4,5 года турмы ў лістападзе летась. Яго прызналі вінаватым у нясплаце падаткаў. Праваабаронца сваёй віны не прызнаў і заявіў, што ўсе грошы, атрыманыя на свае рахункі, выдаткоўваў на праваабарончую дзейнасьць.

Падставай для крымінальнага перасьледу Бяляцкага стала інфармацыя пра банкаўскія рахункі, якую перадалі афіцыйнаму Менску Літва і Польшча.
Бяляцкі знаходзіцца ў бабруйскай турме.

Краіны Эўразьвязу, ЗША і міжнародныя праваабарончыя арганізацыі лічаць Бяляцкага палітвязьнем, а прысуд яму — палітычна матываваным. Яны патрабуюць ад уладаў Беларусі вызваліць праваабаронцу.

www.svaboda.org/content/article/24504979.html

## У Брэсцкім раёне забаронена правядзенне 15 пікетаў

Усе гэтыя акцыі ставілі на мэце прыцягнуць увагу да збяднення насельніцтва і былі заяўлены мясцовымі актывістамі Беларускай партыі левых “Справядлівы свет”.

Пікеты планавалася правесці 16 сакавіка ў 14-ці вёсках Брэсцкага раёна і ў гарадскім пасёлку Дамачава. Такім чынам іх арганізатары мелі намер выказаць свой пратэст супраць далейшага росту коштаў на асноўныя тавары і паслугі, што асабліва ўдарыла па пенсіянерам, шматдзетных і малазабяспечаных сем’ях. Падчас акцый планавалася распаўсюджваць інфармацыйныя матэрыялы аб рэальнай сацыяльна-эканамічнай сітуацыі ў краіне.

Па словах старшыні раённай партыйнай структуры Анатоля Новіка, з сельвыканкамаў рэгіёну ўсе заяўнікі акцый атрымалі аднолькавыя лісты: ім неабходна з’явіцца туды для ўдакладнення пытанняў, звязаных з правядзеннем пікетавання. Аднак, як тлумачыць Анатоль Новік, усе заяўкі былі пададзены ў адпаведнасці з Законам аб масавых мерапрыемствах, таму ўлады павінны былі не выклікаць людзей, а даць адказ – альбо станоўчы, альбо адмоўны. Па яго меркаванні, чыноўнікі выканкамаў падчас такіх сустрэч збіраліся не ўдакладняць фармат правядзення акцый, а шукаць падставы для іх забароны. “Абмеркаваўшы гэтую сітуацыю, мы прынялі рашэнне не ісці ў выканкамы, пасля чаго атрымалі новыя, як пад капірку напісаныя лісты, дзе гаворыцца, што пікеты забароненыя, бо заяўнікі не прыйшлі на размовы“, - распавёў Новік.

Партыйны актывіст запэўнівае, што сябры “Справядлівага свету” будуць працягваць дамагацца правядзення ў у Брэсцкім раёне такіх акцый, нягледзячы на спробы мясцовых уладаў не дапусціць публічнага выказвання незадаволенасці сацыяльна-эканамічнай сітуацыяй у краіне. Раней, у лютым 2012-га году, у рэгіёне былі забаранены тры пікет супраць збяднення насельніцтва.

spring96.org/be/news/50704

## Адзіночны пікет для чатырох міліцыянтаў

Берасьцейскі актывіст партыі левых «Справядлівы сьвет» Лявонцій Чыпурных адмовіўся ад правядзеньня пікету «За даступнае жытло», дазволенага ўладамі.

Пасьля прыезду Лявонція Чыпурных на месца пікетаваньня ў парк Воінаў-інтэрнацыяналістаў, яго адразу ж абступілі чатыры міліцыянты. У выніку, пікетоўшчык згарнуў свае плякаты й адмовіўся ад правядзеньня акцыі.

Лявонцій Чыпурных кажа, што ён прыняў такое рашэньне, бо на яго аказваецца ціск:

«Прыехалі гэтыя міліцыянты і абступілі мяне з усіх бакоў. Воддаль чалавек у цывільным на відэа здымае. Гэта яны так псыхалягічна на мяне ўзьдзейнічалі».

Ужо пасьля таго, як пікетоўшчык згарнуўся, міліцыянты зьвярнулі сваю ўвагу на кіраўніцу берасьцейскай гарадзкой арганізацыі партыі «Справядлівы сьвет» Людмілу Дзенісенка, якая была непадалёк. Спадарыня была ў кашульцы з партыйнай сымболікай і раздавала мінакам партыйныя ўлёткі.

Міліцыянты адвялі спадарыню Дзенісенка да свайго аўтамабіля і ўзялі зь яе пісьмовыя тлумачэньні. Людміла Дзенісенка кажа, што ёй пагражалі штрафам:

«Склалі тлумачальную зь мяне і яшчэ зь пяці чалавек тут прысутных, што я не брыдкасловіла. Сказалі, што калі ў маёй улётцы знойдуць заклікі да зьвяржэньня рэжыму, то праз дзесяць дзён мяне выклічуць і